*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 7
Май
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА



## Янук ДАРАШКЕВІЧ
## Малітва беларуса



Божэ! Божэ!
Дай нам сілу,
Дай нам моц,
дай розум нам,
Дай нам свет,
навуку мілу,
Палажы канец слязам!
Разгані туман няпраўды,
Што уеўся ў вочы мглой…
Хай засвеціць сонца праўды
Над забытай стараной.

*(“Маладосць” №4, 2012 г.)*

## Наперадзе - праца

### Аднаўлена Магілёўскае аддзяленне ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

**26** красавіка адбылося пасяджэнне Магілёўскага аддзялення Грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў". У парадку дня пасяджэння сталі два пытанні:

1. Аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення СБП;
2. Выбары старшыні аддзялення.

Праца пасяджэння пачалася з уручэння пісьменніцкіх пасведчанняў нядаўна прынятым у шэрагі СБП Тамары Аўсяннікавай, Міхасю Булавацкаму і Сяргею Украінку.



*Літаратары абмяркоўваюць надзённыя пытанні*
Фота Э.Акуліна

Аднагалосна было прынята рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. На пасаду старшыні Магілёўскага аддзялення абраны пісьменнік Мікола Яцкоў.

Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў на пасяджэнні прадстаўляў намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## У Магілёве няма грошай на рамонт мастоў

Самым старым мастам Магілёва, якія пабудаваны па Пушкінскаму праспекту і праспекту Шмідта, даўно патрабуецца капітальны рамонт. Аднак пакуль на гэта ў горада няма сродкаў. Як адзначыў старшыня Магілёўскага гарвыканкама С.Барадаўка, праектная дакументацыя на рамонт падрыхтавана. Адпаведна разлікам, капрамонт Пушкінскага маста зойме 17, а Шмідтаўскага - 20 месяцаў. Кошт падрадчых работ - 52 і 66 мільярдаў рублёў адпаведна.

С.Барадаўка адзначыў, што гарадское кіраўніцтва звярталася па гэтаму пытанню ў аблвыканкам, тыя - у Міністэрства фінансаў для фарміравання бюджэту на 2012 год, аднак пры правядзенні разлікаў Мінфін гэтыя грошы не выдзеліў. І таму ў бягучым годзе сродкаў на рамонт мастоў няма. Гарвыканкам прасіў выдзеліць 24 мільярды рублёў хоць дзеля таго, каб выканаць частку работ па масту па праспекце Шмідта, але адказу пакуль што не атрымана.

Тым часам Дзяржаўтаінспекцыя прыняла меры па абмежаванню дарожнага руху праз гэтыя масты для вялікагрузнага транспарту. У другім квартале 2012 г. спецыялісты здымуць тут верхні слой асфальту, каб знізіць нагрузку на апоры.

### *Крыху гісторыі*

*Сёння ні на адной магілёўскай карце, ні ў адной афіцыйнай паперы не сустрэнеш слова “Лупалава”. Гэту назву час ад часу ў размовах узгадваюць карэнныя жыхары. Таксама Лупалава можна сустрэць у гістарычных дакументах. Гэты раён ніколі не быў самастойным населеным пунктам з асобнай назвай. Тым не менш на некаторых даваенных картах БССР можна ўбачыць: з аднаго боку Дняпра пазначаны Магілёў, з другога - Лупалава. Прычыны такой на першы погляд неадпаведнасці крыюцца ў гістарычных падзеях. У 1918 г. Магілёў знаходзіўся адразу ў двух дзяржавах: усё правабярэжжа аказалася акупавана кайзераўскімі войскамі, а Лупалава знаходзілася ў Савецкай Расіі (БССР тады яшчэ не існавала) -- мяжа праходзіла па Дняпру.*



*Будаўніцтва маста праз Днепр паміж Пушкінскім праспектам і вуліцай Вал Чырвонай Зоркі. Справа - стары мост. Канец 1950-х г.г.*

Фота з архіва Давіда Лісоўскага.

*Падрыхтавалі Антон ДУБАЛОМАЎ і Юлія БРУК.*



## Развіталіся з земляком

На могілках у в.Макаранцы Магілёўскага раёна напярэдадні святкавання Дня Перамогі адбылася ўрачыстая цырымонія перапахавання ўраджэнца гэтай вёскі Пятра Радзівонавіча Веліканава. Ён загінуў на эстонскай зямлі ў баю пад Нарвай. Як паведаміла раённая газета “Прыдняпроўская ніва”, асобу салдата ідэнтыфікавалі па нумару знойдзенага ордэна “Чырвонай Зоркі”. Усё, здаецца, зразумела, калі б П.Р.Веліканаў быў не пахаваны пасля бою, а застаўся там, дзе яго сустрэла смерць. Але ж, як нам паведаміў Падольскі архіў Міністэрства абароны Расіі, член ВКП(б), камандзір аддзялення кулямётнай роты 622 стралковага палка 124-й стралковай Мгінскай дывізіі, старшы сяржант Веліканаў Пётр Радзівонавіч, 1913 г.н., прызваны ў армію Магілёўскім райваенкаматам у 1941 г., загінуў 9 сакавіка 1944 г. і пахаваны ў Эстонскай ССР, паўднёва-заходней г.Нарвы, на адлегласці 1 км на паўднёвы захад ад пасёлка Сіргала. Такім чынам, пахаванне адбылося, аб чым быў састаўлены адпаведны дакумент. Звычайна так і адбывалася: брацкія магілы рабіліся там, дзе было магчыма, падзея падрабязна дакументавалася, а пасля вайны рэшткі салдат пераносіліся ў населеныя пункты ці на мясцовыя могілкі. Але нават у палявых умовах вайны не практыкавалася пахаванне разам з узнагародамі. Так што знаходка прозвішча асобы па ордэну ў дадзеным выпадку выглядае трохі дзіўнавата.




Ветэран Вялікай Айчынай вайны Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў, да якога мы звярнуліся за кансультацыяй, паведаміў, што, магчыма, ніякага пахавання не было, але па дакументах прайшло зусім іншае.



*Пётр Радзівонавіч ВЕЛІКАНАЎ*

Але з гэтым меркаваннем цяжка пагадзіцца, бо ў 1944 г. ваенная штабная бюракратыя працавала добра, і калі воін гінуў, то ў сям'ю дасылалася “пахаронка”, на падставе якой назначалася пенсія ці жонцы, ці маці загінуўшага. Але грошай у дзяржаве было мала, і калі баец гінуў ў баі і яго не знаходзілі для пахавання, то дасылалася папера, што ён *“прапаў без звестак”* - і на падставе гэтага пенсія не назначалася.

Улічваючы сёняшнія адносіны эстонскіх уладаў да ўсяго былога савецкага, калі Чырвоная Армія лічыцца “захопніцай”, можна меркаваць пра тое, што, магчыма, маючыя месца пахаванні савецкіх воінаў ліквідуюцца, і зямля з-пад іх ідзе на нейкія іншыя патрэбы. А мясцовыя ўлады паведамляюць у адпаведныя амбасады аб гэтых сваіх намерах і перадаюць рэшткі для перапахавання.

Можа, так і лепей. Бо вярнуўся Пётр Радзівонавіч з чужыны на сваю старонку і знайшоў апошняе ўпакаванне на родных вясковых могілках побач са сваякамі. Вечная яму памяць - за подзвіг і мужную годнасць. І няхай беларускія бярозы пяюць над ім сваю векапомную песню.

*Юлія БРУК.*

**9** мая 2012 г. у Любужскім лесапарку група жыхароў зладзіла гулянку ля магілак ваеннапалонных салдат Вермахта. Тут пахаваны 200 нямецкіх салдат, якія памёрлі ў шпіталі в.Халмы з 1945 па 1948 г. Магілкі агароджаныя і за імі даглядаюць нямецкія дабрачынныя арганізацыі. Ёсць звесткі, што мясцовыя жыхары часта робяць тут “пікнікі”.

# Спадарожнікавыя антэны - далоў!



Магілёўскія ўлады пагражаюць уладальнікам спадарожнікавых антэн штрафам ад 30 да 50 базавых велічынь і прымусовым дэмантажам.

Магілёўскае ЖЭУ № 1 да майскіх святаў пачало барацьбу з "незаконнымі" канструкцыямі на дахах і фасадах будынкаў. У лік недазволеных трапілі тэлевізійныя і спадарожнікавыя антэны, а таксама кандыцыянеры.

Начальнік ЖЭУ № 1 Валерый Зубрыцкі прызнаў, што многія жыхары горада выказалі незадавальненне дзейнасцю камунальнікаў і прапанаваў замест спадарожнікавага тэлебачання падключацца да кабельнага.

Многія магілёўцы перакананы ў тым, што барацьба ўладаў са спадарожнікавымі антэнамі звязана з імкненнем не дазволіць глядзець тэлеканалы, якія аб'ектыўна асвятляюць сітуацыю ў Беларусі і з-за гэтага забаронены да трансляцыі апаратарамі кабельнага тэлебачання.

Вось якое меркаванне выказаў адзін з жыхароў Магілёва:

*-- Если смотреть на ситуацию в Могилёве в целом, как говорил Михаил Сергеевич Горбачёв "шире", то местные чиновники слишком рано позадирали головы вверх - на антенны и кондиционеры. Слишком рано! Потому что, если бы они начали с того, что им ближе, т.е. с земли, то, в первую очередь, они должны были увидеть состояние автомобильных дорог в городе-орденоносце Могилёве. Это просто жопа, а не дороги. Может быть, у них на родине, в глухих лесах и забитых деревнях, считается нормальным отсутствие хорошей дороги и присутствие огромных ям в каждом квадратном метре асфальтового покрытия, но у нас, в центре Европы, это считается просто наплевательским отношением к своей работе и, что ещё хуже, наплевательским отношением к людям, населяющим твою подотчётную территорию. Например, на улицах Димитрова, Юбилейный бульвар, весь район Техноприбор, новые районы улиц Мовчанского - Островского, да что там говорить! Даже Новый Мост через Днепр в таком разбитом состоянии, в таком количестве ям и выбоин, что невозможно спокойно ехать на авто - жалко колёс и подвески! Ладно, мы можем понять то, что власти наср..ть на частные автомобили простых граждан, мол, это их собственность - пусть сами и платят за свои колёса и подвески. Но получается, что власти так же наср...ть и на государственные и ведомственные автомобили, т.е. находящиеся на балансах различных государственных структур и предприятий - ихто чинить приходится за бюджетные деньги. А это уже расхитительством попахивает и распиз...ством - за это можно и в тюрьму изпод горячей руки нашего вождя угодить.*

*Поэтому, дорогие наши начальники, сперва отремонтируйте дороги, а потом уже будете головы поднимать выше - к "тарелкам" и "кондеям".*

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*



# Закрываюцца школы



У Беларусі за апошнія 5 гадоў зачынілі 450 школ. У гэтым годзе зачыняць 114 школ, у якіх было мала вучняў. Гэта, перш за ўсё, школы ў сельскай мясцовасці. Іх існаванне, па словах намесніка міністра адукацыі Казіміра Фарына, з'яўляецца *"адной з важных праблем у сістэме адукацыі"*. Яшчэ 96 школ будзе рэарганізавана.

*Міхась БАРАЗНА.*

# Да ліку святых



4 - 6 мая 2012 г. у Кафедральным касцёле Успення Прасвятой Дзевы Марыі ў Магілёве прайшлі дні біскупа Баляслава Слосканса. Праграму мерапрыемстваў склалі навуковая канферэнцыя, канцэрт класічнай музыкі, Хросны ход, урачыстыя месы і іншае.

Баляслаў Слосканс (1893 - 1981) - выбітны дзеяч Рымска-каталіцкай царквы, адміністратар Магілёўскай мітраполіі, апостальскі візітатар для рускіх і беларускіх католікаў у эміграцыі. У верасні 1927 г. быў арыштаваны па абвінавачванню ў шпіянажы і на тры гады сасланы ў Салавецкі лагер асобага прызначэння, дзе рукапакладаў святароў і праводзіў набажэнствы. Па вяртанні ў Магілёў зноў быў арыштаваны і сасланы ва Ўсходнюю Сібір, дзе адбыў яшчэ тры гады. Усяго, адпаведна жыццяпісанню біскупа, ён правёў у турмах 17 гадоў, дзе прайшоў праз жорсткія пакуты і прыніжэнні.

У 2000 г. быў распачаты працэс кананізацыі Баляслава Слосканса, які працягваецца да сённяшняга дня.

*Юлія БРУК.*

# Дні яўрэйскай культуры

Дні яўрэйскай культуры прайшлі ў Магілёве з 2 па 4 мая 2012 г. У рамках свята адбылося адкрыццё выставы работ мастакоў Мацвея Басава, Галіны Левінай і Рыгора Несцерава, паказ дакументальных фільмаў, быў праведзены круглы стол на тэму "Беларускія мястэчкі - скрыжаванні культур". Цэнтральнай падзеяй з'явілася адкрыццё на доме № 21 па вул. Першамайскай мемарыяльнай дошкі ў гонар знакамітага кампазітара Эдуарда Калманоўскага, які тут нарадзіўся і стаў вядомы, дзякуючы сваім песням "Я люблю тебя, жизнь", "Алёша" і інш. На адкрыцці прысутнічаў яго сын - кампазітар Сяргей Калманоўскі.




*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# Крымінальны экспрэс

**28** красавіка аўтамабіль "Сеат-Кардоба" сутыкнуўся з грузавым "ГАЗ-66" на сустрэчнай паласе ў в.Слялец Магілёўскага раёна. Кіроўцу "Сеата" з аўтамабіля вызвалялі выратавальнікі. Яго і трох пасажыраў даставілі ў бальніцу.

**30** красавіка ў в.Вейна у сваім доме ў ванным пакоі патанула 45-гадовая жанчына.

**1** мая на беразе р. Днепр каля в.Палыкавічы адпачывала кампанія. Пікнік не абышоўся без спіртнога. 23-гадовы магіляўчанін, разгарачаны ня ў меру, вырашыў паплаваць. Колькасць выпітага прытупіла адчуванне небяспекі: хлопец адплыў прыкладна на 30 метраў ад берага, намецўшы ў якасці арыентыра часткова затопленае дрэва. Аднак сілы пакінулі чалавека. Давялося вызываць выратавальнікаў для аказання дапамогі. Пасля агляду медыкі канстатавалі, што шпіталізацыя хлопцу не патрэбна.

**5** мая была ўзбуджана справа ў адносінах непрацуючага жыхара в.Мядзвёдаўка Магілёўскага раёна. Ён падпаліў дом сваёй аднавяскоўцы, абліўшы яго бензінам. Раней мужчына быў судзімы за забойства. Вядома, што ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# ГАРЫМ!

**9** мая 2012 г. каля 4 гадзін раніцы жыхароў в. Красніца-2 Магілёўскага раёна разбудзіў трэск шыфера палаючага дома. На жаль, суседзі занадта позна заўчажылі ўзгаранне, і да моманту прыбыцця выратавальнікаў дом гарэў адкрытым агнём. Шансаў на выратаванне 66-гадовага гаспадара не засталося. Са слоў суседзяў, напярэдадні здарэння пенсіянера бачылі ў стане алкагольнага ап'янення. Папярэдняя прычына здарэння - неасцярожнасць пры курэнні.

*А.С.*



# У Магілёве з'явіцца новая турма

Гэта будзе турма часоў Магдэбургскага горада. Мясцовыя гісторыкі спадзяюцца, што яна прыцягне турыстаў. Ідэя стварэння такой турмы належыць Музею гісторыі Магілёва. Яна размесціцца ў скляпеннях аднаго са старых будынкаў каля гарадской ратушы. Там будуць калодкі для пакаранняў, каб людзі маглі на сабе прымерыць іх. Будзе таксама дыба... Гэта будзе імітацыя турмы XVI-XVIII стагоддзяў. Нічога падобнага дагэтуль у нашай краіне не было (ёсць турэмныя скляпенні ў Мірскім замку, але без экспазіцыі). А вось у якія тэрміны у Магілёве з'явіцца турма часоў Магдэбургскага горада, пакуль дакладна невядома.

*С.П.*



"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна
Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці
з Законам Рэспублікі Беларусь
"Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.05.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.